№111 (1924)
Субота, 19 чэрвеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +15...+17, уначы — +9...+11, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +18...+20, сонечна, уначы — +12...+14, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +15...+17, дождж, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +14...+16, уначы — +8...+10, на працягу сутак — дождж; у Гомелі ўдзень — +17...+19, дождж, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +17...+19, уначы — +9...+11, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



# *80 гадоў таму нарадзіўся Вялікі Сын Беларусі **Васіль Быкаў**. Ён будзе жыць, пакуль будзе круціцца Зямля*

*...Васіль Быкаў сваёй творчасьцю высока ўзьняў у сьвеце асобу беларуса, ягоны характар, спосаб думаньня, ягоную прысутнасьць у жыцьці на Зямлі. Гэтым ён вялікі пісьменьнік для беларусаў і для ўсяго сьвету.*

*Але Быкаў значны яшчэ іншым. Ён знакавая (я б сказаў, сакральная) фігура для ўсёй Беларусі. Яшчэ пры жыцьці Быкава называлі сумленьнем беларускай нацыі і гэтак яго ўспрымалі.*

*Васіль Быкаў сапраўды быў сумленьнем нацыі. Ён — ваяр з гітлераўскім фашызмам — не служыў ні камуністам, ні мамоне, а толькі Беларускай літаратуры і Беларусі. Ён ніколі нікому не прадаваў свайго сумленьня. Рабіў так, як думаў.*

*Васіль Быкаў — адзін зь нямногіх старэйшых пісьменьнікаў і творцаў, якія на вырашальным павароце нацыянальнай гісторыі зрабіў рашучы выбар — не вагаючыся і не азіраючыся, стаў на бок беларускага нацыянальнага Адраджэньня, прыняў ідэалы 25 Сакавіка, стаў у шэрагі Беларускага Народнага Фронту і застаўся верным Беларусі да канца.*

*Вось дзе гістарычная веліч асобы Быкава. Былі таленты ў іншых літаратурах, што пісалі вялікае, а рабілі — нікчэмнае. Быкаў не такі. Гэта глыба, скала, моц таленту, розуму, добрасьць душы і веліч, высакароднасьць асобы.*

*Як добра, што ў нас, беларусаў, ёсьць такі дух, такі выдатны пісьменьнік. І колькі нам Бог такіх даў у XX стагоддзі, каб мы ня згінулі. Купала, Колас, Быкаў, Багдановіч, Гарун, Генюш, Арсеньнева. Шануйма ж, ня страцьма.*

**Зянон ПАЗЬНЯК.**

*Варшава.*

ВІНШУЕМ!

## Заўтра — дзень медыцынскага работніка



Напярэдадні свята міністр аховы здароўя **Людміла Пастаялка** з гонарам заўважыла, што сёння беларускія ўрачы зарабляюць больш за 200 долараў у месяц, медыцынскія сёстры — каля 118, малодшы медыцынскі персанал — каля 80 долараў. Па словах міністра, да канца года зарплата ў галіне аховы здароўя будзе самай высокай у сацыяльнай сферы.

На фоне сярэдняй заработнай платы па краіне, якая, між іншым, складае 128 долараў, гэта выглядае няблага. Але ці годная гэта аплата працы ўрача?.. У суседняй Польшчы ўрачы зарабляюць каля 500 долараў. І сёння там узнікла праблема з міграцыяй медыкаў. Незадаволеныя афіцыйнымі заробкамі, яны пакідаюць радзіму і накіроўваюцца ў іншыя краіны Еўрасаюза, дзе на дзяржаўным узроўні закладзена зусім іншае стаўленне да чалавека ў белым халаце...

Амаль усе мы скардзімся на тое, што беларуская сістэма аховы здароўя недасканалая. Але, згадзіцеся, кожны з нас заўсёды знойдзе словы падзякі асобнаму доктару, медыцынскай сястры, якія калісьці прыйшлі на дапамогу.

**Рыгор БАРАДУЛІН**

# Сам-насам зь вечнасьцю...

Нічога выпадковага не бывае. На пустым мейсцы не ўзьнікае нічога. Усё ў жыцьці зьвязана ўзаемна. Вушаччына, як часьцінка Полацкае зямлі, захавала дух паганства, захавала карані крывіцкае мовы, крывіцкую нясхібнасьць. Крывічы — цемя нацыі. Таму так стараліся захопнікі ўсіх масьцей у першую чаргу, што называецца, адбіць памяць, цаляць якраз у цемя.

На нашых вазёрна-баравых абсягах курганы завуцца валатоўкамі-магіламі волатаў крывіцкага духу. Валуны — ачахлыя зоркі. Вёскі носяць імёны Горы, Гарані, Паперына, Паперня. Прозьвішчы нашых людзей і аратайныя, й касьмічна-аземленыя, й панавітыя, й падкрэсьлена нязкораныя, змагарскія.

Герб Вушачы таксама сымбалічны. Сьвяты Лаўрэн правіцай на аплеччы трымае пальмавую галінку, якая болей нагадвае крыж пакутаў, лявіцай абапіраецца нібыта на ваконную раму ці раму з сотамі. А гэта краты, на якія паклалі сьвятога Лаўрэна і палілі яго агнём, каб ён сказаў кесаравым чыноўнікам, дзе скарбы царквы. Паданьне ўзгадвае, што сьвяты Лаўрэн насьміхаўся з судзьдзі, сказаўшы кату: "Як бачыш, маё цела ўжо дастаткова падсмажылася з аднаго боку, самы час перавярнуць яго на другі". А перад гэтым прадбачлівы дыякан раздаў усе грошы жабракам, і, калі судзьдзя загадаў паказаць скарбы Царквы, сьвяты Лаўрэн сабраў гэтых жабракоў і, паказваючы на іх, сказаў: "Вось скарбы Царквы". Лаўрэн шануецца як апякун бедных, пекараў, кухараў, бібліятэкараў, пчаляроў.

Герб Вушачы як бы прадвызначыў зямны шлях Васіля Быкава. Апостал нацыі раздаў скарбы бажніцы сваёй душы людзям, якіх камунісцкая ідэалёгія намагалася зрабіць жабракамі. Якіх вялі ў камуністычны рай курсам Івана Сусаніна. Васіль казаў: "Камунізм — СНІД XX веку". Пра катаваньні, пра падсмажваньне на марудным агні паклёпаў, даносаў, якаваньня ў беспрынцыпных сродках масавага абалваньваньня апостала нацыі пісаць паперы ня хопіць.

Бог паслаў Васіля, Уладзіміравага сына, на зямлю крывіцкую, каб бараніць яе, мацаваць веру люду крывіцкага ў сваю наканаваную наступнасьць. І, бывала, падкрэсьліваў: "...Бог водзіць рукой лёсу. Але ўсё ня ў нашую карысьць. А, можа, так і трэба..."

Свая знакавасьць ёсьць і ў тым, што Васіля Быкава блізкія й сябры, і ўсе, хто хінуўся да яго душою, называлі Васіль. І гэта не азначала, што хадзілі за ім, як на Вашаччыне кажуць, у панібрацьці. Хтой калі сьвятых, апосталаў называў па ймю й па бацьку? Крывічы хіба што так падкрэслівалі, чый сын: Мікалаёнак, Аляксяёнак, Барысёнак. Трэба час, каб хоць нашчадкамі ўсьвядомілася богадарная асоба Васіля Быкава, перуновы праклён ягонае думкі, космас душы ягонае.

Для мяне Васіль быў усім — і настаўнікам, і старэйшым сябрам, і спагадлівым братам, і чулым заступнікам, нават бацькам. Лёс мой пазначылі Бог, мама, Васіль. А што тычыцца Вушаччыны, якой я жыў і дажываю, дык тут Васіль быў цалкам. І самыя шчасьлівыя былі тыя дні, калі ехалі мы на сваю радзіму. Васіль любіў дарогі (доля наразьвінала й накруціла задужа іх), але самай жаданай была дарога ў крэўныя мясьціны. Невыпадкова геніяльна шчырая споведзь названа "Доўгая дарога дадому". (Мне здаецца, што ў думках Васілёвых гучала яна па-вушацку — даўгая. Радок з верша: "Даўгая дарога дадому".)

Памятаецца, як на пачатку васьмідзесятых гадоў ехалі з Васілём дамоў. Васіль, гледзячы на саўковы рух, сумнавата ўсьміхаецца: "...На дарогах, як і ў жыцьці, у каго вялікая машына, той і прэ..."

Едзем каля вушацкае вёскі Арэхаўна (раней у нас было й грыбоў, і ягадаў, і арэхаў), Васіль прыгадвае, што ў 1936—1937 гадох тут быў піянэрскі лягер, сьпявалі песьню пра Шчорса, у яе былі радкі "след кровавый стелется по сырой траве" (потым за сваё жыцьцё хапіла крывавых слядоў Васілю). У Вушаччы ўзгадвае сяльмаг, дзе віселі копіі нейкіх карцін, доўга вісеў Чапаеў на кані Васільева. Вушацкі сяльмаг быў першым музэем Васілю. Удакладняе: "...Дарэчы, у нас гаварылі Ушача, пайшоў у Вушачу, прыйшоў з Вушачы, гаварылі Полацак, Лепля..." (Мая мама й нашыя суседзі таксама казалі.)

У Кублічах Васіль тлумачыць: "...Кублічы — сымпатычнае мястэчка, сюды мяне вадзілі на прычасьце... Пасьля трактарам сьцягвалі крыжы з храма..."

Пра школу Васіль распавядае з вясёлым смуткам: "...У 30-м годзе пайшоў у першы кляс... Не хапала гадоў, сябры пайшлі, а мяне не ўзялі. Пачаў плакаць, бацька павёў да Аўласенкі, ён даў сшытак, пяро, а ручку выразаць схадзіў у балота... Школа была, дзе зараз брат Мікола жыве... Аўласенка прынёс 10 кніг, пачаў раздаваць. Майму сябру Валодзю Галавачу "Канька-Гарбунка", а мне пра царэўну-жабу. Дасюль крыўдна, чаму ня мне пра Канька-Гарбунка..."



Едзем у Вялікія Дольцы. Васіль тлумачыць: "...Вялікія Дольцы — доля ў даліне... Калі некалі будуць добрыя дарогі, для турыстаў, для вастрыні ўражаньняў трэба пакінуць усё нечапаным..."

Панавіты крывіч Васіль Быкаў доўга ня чуў родную мову. Але недарэмна родную мову называюць матчынай. Васіль прызнаўся: "...Я ўспамінаў, як мама гаварыла, й аднавіў мову..."

Ня толькі аднавіў родную, крэўную мову, але й абнавіў яе. Быкаўскія наватворы яшчэ чакаюць сваіх даследчыкаў.

На бетонным слупе каля Васілёвае хаты, дакладней, каля хаты, дзе пачынаў вучыцца, буслы зладзьбавалі буслянку. Аж чатыры бусьляняткі спрабуюць узмахнуць крылкамі. Электрыкі было скінулі гняздо, а вясной прыляцелі буслы й аднавілі сваё небам крытае котлішча. У буслоў таксама крывіцкі характар. Нагадваю малечую цьвялілку (Васіль пабыкаўску расчулена-стрымана ўсьміхаецца):

*Бацян, бацян даўганосы,*
*Прапіў боты, а сам босы...*

І Васіль зноў узгадаў маладыя гады: "...У шостым клясе прачытаў усю бібліятэку — й Салтыкова-Шчадрына, й Горкага. А ў Чамярыне ў сябрука быў куфар з дарэвалюцыйнымі кнігамі. Дужа любіў чытаць Жуля Верна. Узяў старую кніжку "Из пушки на Луну" й зрабіў пераклад на беларускую мову (недзе ў 36—37-м гадох) дый паслаў у "Бярозку". Атрымаў адказ ад Міколы Лупсякова: навошта перакладаць на беларускую, калі ёсьць на расейскай..." (Тады Васілю здавалася, калі Мікола Лупсякоў дае адказы, дык ён недзе ў рангу Коласа, Броўкі, Глебкі. І як жа быў расчараваны пасьля вайны, калі прачытаў нейкія апавяданьні ягоныя й дачуўся, што Лупсякоў шмат п'е.)

Вонкава спакойны, нават крыху сураваты, душой Васіль быў трапятлівы. Дасюль гучыць мне ягонае сціплае: "І тады ўсё ўва мне затрымцела". (І вулкан звонку халодны, каменна-застылы.)

1980 год. Васіль глядзіць на маці: "...Во. У мамы якія ручкі, як у птушачкі лапкі..."

Заехаліся да сястры Валянціны Ладысішкі. Пакуль яна нешта ладзіць на стол, гатуе ваду, Васіль успамінае, як у 41-м у прыфрантавой зоне было гола, елі фруктовы чай. Шмат было самастрэлаў, асабліва маладых. Некаторыя стралялі ў сябе праз буханку хлеба (каб было ўражаньне, што параніла варожая куля). Любілі ў арміі й такую паслаўку:

*Было в нашем полку три дуба —*
*Начхим, Начфин и начальник клуба.*

Каля столу пяе курню Валін кот Васіль. "Мой цёзка", — на поўным сур'ёзе тлумачыць Васіль.

Катоў Васіль любіў змалку. І кожны раз перадаваў прывітаньне майму любімцу Мірону й пісьмова, й па тэлефоне зь Фінляндыі, зь Нямеччыны, зь Чэхіі. У лютым 2001 года прыслаў нават паштоўку (на ёй кот з сабакам у зьміры) з надпісам: "Гэтая нямецкая сямейка віншуе вашага Мірона з днём народзінаў дзеда".

*(Заканчэнне на 3-й стар.)*

# Ёгурт з Астанкіна

### Як яму ўдалося патрапіць у многія мінскія магазіны?

У апошнія гады назіраецца вялікі наплыў да нас прадуктаў з Расіі. Гэта бачна, як кажуць, няўзброеным вокам. Калі раней Беларусь пастаўляла харчаванне ў Маскву і іншыя рэгіёны Расійскай Федэрацыі, дык цяпер яно шырока ідзе адтуль да нас.

Вядома, пакупніку не важна, адкуль той ці іншы прадукт. Для яго галоўнае, каб быў выбар ды цана не кусалася. Так што з'яўленне на прылаўках прадуктаў суседніх дзяржаў пашырае іх асартымент у гастраномах, стварае канкурэнцыю, якая падштурхоўвае вытворцаў болей клапаціцца пра якасць.

Але ёсць тут і другі "бок медаля". Купляючы ў вялікіх аб'ёмах прадукцыю іншых дзяржаў, мы, па сутнасці, фінансуем іхнюю эканоміку. У выніку айчынныя вытворцы маюць меншы прыбытак, а, значыць, краіна мае менш сродкаў у фондах развіцця і абнаўлення вытворчасці, а таксама пенсіённым... Такім чынам, прайграем мы ўсе. Вось чаму ў гандлі таварамі і прадуктамі важна мець разумны баланс.

Дык чаму ж расійскія прадукты пачалі выцясняць нашы? Чым яны, як кажуць, бяруць? За адказамі я накіраваўся ў гастраномы і універсамы, бо хто як не гандляры ведаюць, чаму пакупнікі аддаюць перавагу таму ці іншаму прадукту. Пры гэтым не выбіраў гандлёвыя кропкі па тых ці іншых меркаваннях, а заходзіў у кожную, якая траплялася на шляху.

Выйшаўшы з рэдакцыі, метраў праз дзвесце ўбачыў гастраном "Старажытны" па вуліцы Чырвонаармейскай. Ён невялікі, утульны. Цікаўлюся ў прадаўцоў, якая доля расійскіх прадуктаў у агульным аб'ёме продажу? Аказалася, што падобная статыстыка не вядзецца, але, па прыкідках, яна складае прыкладна 20 працэнтаў. Якія прадукты ідуць з Усходу? Цукеркі, цыгарэты, піва, віно, рыбныя кансервы, ёгурты... Што датычыць нейкага аналізу іх якасці, попыту, то работніцы параілі звяртацца з такімі пытаннямі ў буйныя гандлёвыя кропкі.

Ідзём далей. На вуліцы Пуліхава, 3 знаходзіцца вялікі гастраном. Але размова тут не атрымалася. Яго кіраўнікі адразу ж заявілі: не будзем адказваць на вашы пытанні. "Чаму?" — пытаюся. "Не будзем, і ўсё". Не, дык не. Але пазіцыя больш чым дзіўная.

Іду ў наступны гастраном па вуліцы Захарава, 27. Тут, па прыкідцы работнікаў, доля расійскіх прадуктаў складае прыкладна 15 працэнтаў. Знаёмімся з імі. Вось ёгурты з Масквы, з Астанкінскага малочнага прадпрыемства. У даволі прыгожай упакоўцы, нават не адрозніць ад заходнееўрапейскіх. Побач на прылаўку сырок плаўлены "Расійскі". Тут жа ляжаць і нашы плаўленыя сыркі. Кошт нашага, стограмовага, 710 рублёў, расійскага такой жа вагі — 1430 рублёў. Але рука цягнецца за расійскім, бо ён у сучаснай прыгожай упакоўцы, як заморскі. А наш у той жа абгортцы, што і дзесяткі гадоў таму. Вось пакупнікі з грашыма ахвотней купляюць расійскі.

Тое ж і з фасоляй. Расійская ўпакавана ў прыгожую бляшанку, наша — у звычайны слоік. У мутнаватай вадзе бачацца мутнаватыя фасоліны. І хоць якасць іх, па словах прадаўцоў, амаль аднолькавая, ды наша вагой паўкіло каштуе 1500 рублёў, а тая, што з Краснадарскага краю, вагой усяго 350 грамаў і каштуе амаль столькі ж, многія ахвотней бяруць расійскую.

Ікра кабачковая прывезена з Белгарадскай вобласці. Яна таксама ўпакавана прыгожа. За 360 грамаў яе трэба выкласці 1270 рублёў. Паўкілаграмовы слоік беларускай каштуе меней, усяго 1190 рублёў.

Такім чынам, першы адказ відавочны. Расійская прадукцыя мае сучасную, больш прывабную ўпакоўку і гэтым "бярэ" многіх пакупнікоў.

Супермаркет "Машэраўскі" ў цэнтры горада. У ім шмат самых разнастайных прадуктаў. Доля расійскіх складае каля 30 працэнтаў. Раней было больш за 40 працэнтаў, гаворыць адказная работніца маркета, ды ў апошнія гады пацясніла іх прадукцыя беларускіх вытворцаў.

Чым выдзяляюцца расійскія прадукты? Упакоўкай, асартыментам. У Беларусі праблема з кетчупамі. Вось і завозяць з усходняй дзяржавы. Пакупнікі любяць невялікія агурочкі ў слоіках. Іх мала айчыннай вытворчасці, таму добра разыходзяцца расійскія. Словам, тавары з Усходу запаўняюць тыя нішы, якія не могуць запоўніць нашы вытворцы. Не могуць, бо не ўдаецца ім аператыўна перабудавацца пад патрэбы спажыўцоў. Вось і яшчэ адзін адказ на пастаўленае ў пачатку артыкула пытанне.

"Бяруць" расійскія тавары і цэнамі. Некаторыя з іх больш танныя за нашы. У маркет "Машэраўскі" раней завозілі з Расіі тушонку, паштэты, каўбасы. Кажуць, яны былі таннейшымі. Але пазней ад іх адмовіліся, бо беларускія, на думку прадаўцоў, больш якасныя. Скажам, тушонка з Бярозы пацясніла расійскую. Беларускае піва таксама пацясніла расійскае. Пакупнікі гэтага маркета, як кажа яго адказная работніца, маюць дастатак "вышэй за сярэдні", таму яны найперш цэняць якасныя прадукты.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

SOS!




# «Ніводная дыктатура не вартая чалавечага жыцця»

## *Галадоўка: дзень семнаццаты*

***Валерый Фралоў, Уладзімір Парфяновіч, Сяргей Скрабец, Марына Багдановіч, Генадзь Ананьеў, Уладзімір Чырвоненка, Юрый Істомін, Уладзімір Радзівончык, Віктар Івашкевіч, Зміцер Чарткоў, Аляксандр Цярэнцьеў, Ігар Сухарукаў, Эла Канавалава, Фёдар Бакуноў, Таццяна Зайкова, Іна Сяткоўская, Віктар Курлукоў** — гэтыя людзі ўсё яшчэ галадаюць. Галадаюць у знак пратэсту супраць нежадання улад разглядаць папраўкі ў Выбарчы кодэкс. Ахвяруючы сваім здароўем, яны, як і мільёны іншых грамадзян, выступаюць супраць трэцяга прэзідэнцкага тэрміну Аляксандра Лукашэнкі. Яны — за вызваленне з-за кратаў Міхаіла Марыніча.*

*Двое з удзельнікаў галадоўкі, Уладзімір Цыбульскі з Полацка і Лідзія Францава з Віцебска, па стане здароўя вымушаны былі яе спыніць.*

Першы раз на працягу галадоўкі Валерыя Фралова наведалі дактары спецпаліклінікі, за якой замацаваны дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Як прызнаецца сам генерал, ён быў вельмі здзіўлены візітам дактароў: *"Прыехалі сур'ёзныя хлопцы, здаецца, на ўзроўні загадчыка аддзялення. Аглядаючы мяне, дактары карысталіся медыцынскай тэрміналогіяй, зразумець іх мне было складана. Яны параілі піць таблеткі, а што яны яшчэ могуць? Напэўна, урачы сёння паведамяць каму трэба пра наш стан..."*.

Людзі ў белых халатах сябе не назвалі і ад інтэрв'ю журналістам адмовіліся... Урачы аглядалі генерала Фралова ў прысутнасці Уладзіміра Чырвоненкі, які таксама ўдзельнічае ў галадоўцы і мае вышэйшую медыцынскую адукацыю. Па словах Чырвоненкі, стан усіх галадоўшчыкаў выклікае вялікую трывогу. Але прыпыняць акцыю пратэсту яны пакуль што не будуць. *"Гэта будзе па меншай меры некарэктна,—* сказаў журналісту "Народнай волі" Уладзімір Парфяновіч. — *Да нас далучаюцца новыя людзі. Напрыклад, у Гомелі нашу акцыю вырашылі падтрымаць* **Уладзімір** *і* **Святлана КІРЫЕНКІ,** *а ў Гродне экс-старшыня абласной арганізацыі ЛДПБ* **Сяргей КОВАЛЬ,** *а таксама* **Вольга КОВАЛЬ.** *Таму мы працягваем галадаць".*

Калі крыху пазней Валерый Фралоў выйшаў на чарговую прэс-канферэнцыю, да яго падышла жанчына і павіталася з генералам за руку. *"Яшчэ ёсць у гэтай руцэ сіла",* — радасна паведаміла яна прысутным.

Новымі, амаль дэтэктыўнымі падрабязнасцямі паабрасла галадоўка ў Віцебску, у якой зараз удзельнічаюць чатыры чалавекі. Ноччу ў віцебскую кватэру, дзе трымаюць галадоўку **Іна СЯТКОЎСКАЯ, Таццяна ЗАЙКОВА, Эла КАНАВАЛАВА** і **Фёдар БАКУНОЎ**, спрабавалі трапіць невядомыя людзі ў цывільным. Пасля таго як галадоўшчыкі адмовіліся адчыніць дзверы, ім пачалі пагражаць, маўляў, усё адно *"мы вас выставім"*. На словы галадоўшчыкаў пра тое, што яны збіраюцца выклікаць міліцыю, начныя візіцёры адказалі: *"Мы самі сабе міліцыя".* Кожны дзень каля дома галадаючых у Віцебску дзяжураць "Жыгулі" сёмай мадэлі з чорнымі вокнамі і дзвюма антэнамі. Раніцай у дзверы кватэры, дзе галадаюць віцябляне, пагрукалі двое будаўнікоў і двое невядомых у цывільным. Калі ім адчынілі, то яны паведамілі галадаючым, што іх балкон на пятым паверсе, аказваецца, з'яўляецца эксперыментальным, і цяпер *"тут будуць праводзіць нейкія эксперыменты"*...

Як вядома, некалькі дзён таму Валерый Фралоў, Уладзімір Парфяновіч і Сяргей Скрабец адправілі ліст Аляксандру Лукашэнку. Адказу на яго дагэтуль няма, таму галадаючымі дэпутатамі было прынята рашэнне звярнуцца да прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Уладзіміра Пуціна. Вось як патлумачыў гэты крок Валерый Фралоў: *"Беларуская ўлада не адпавядае патрабаванням нашага народа. Яна ганьбіць нашу краіну і Расійскую Федэрацыю ў вачах многіх партнёраў. Расія ёсць Расія — гэта сур'ёзны міжнародны партнёр Еўрапейскага Саюза, Злучаных Штатаў і іншых дзяржаў. Таму супрацоўніцтва Расіі з нашымі ўладамі наносіць урон яе міжнароднай рэпутацыі".*

Па-ранейшаму не мае завяршэння эпапея з дэпутацкім заробкам. Нагадаем, што некалькі дзён таму ў Палаце прадстаўнікоў быў дзень зарплаты, але ні Фралоў, ні Скрабец, ні Парфяновіч заробак так і не атрымалі. *"Гэтая сітуацыя лішні раз характарызуе нашы ўлады,* — гаворыць Валерый Фралоў. — *Другі дзень запар наша памочніца спрабуе па даверанасці атрымаць дэпутацкія заробкі. Хаця на ежу нам зараз грошы не патрэбны, за хату б заплацілі... Ну сказалі б адразу: "Хлопцы, Вам заробку не будзе". Ну і да пабачэння! Мы падалі б у суд, каб адстаяць свае правы. Была б нейкая яснасць, а так мы жывем у нейкай дзіўнай дзяржаве..."*

Днямі **Уладзіміра ЧЫРВОНЕНКУ,** адзінага доктара сярод галадаючых, наведала маці, якая спецыяльна прыехала з Гродна. *"Пабыла са мной,* — кажа Уладзімір. — *Патрымала мяне за руку, крыху супакоілася".*

*"Мяне вельмі падтрымлівае жонка,* — распавядае яшчэ адзін удзельнік галадоўкі **Юрый ІСТОМІН,** кіраўнік Гродзенскай гарадской арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі. — *Яна, канешне, вельмі перажывае, але тым не менш ні разу не засумнявалася ў маім рашэнні. Акрамя таго, мне тэлефануюць са словамі падтрымкі простыя людзі з Гродна".*

Працягваюць прыходзіць водгукі на галадоўку, у тым ліку з замежжа. У сям'і Рулюк лічаць так: *"Практычна ўсе салідарны з галадоўшчыкамі, але так запалоханы ўладамі, што баяцца ставіць свой подпіс. Наша грамадства — гэта духоўная турма".*

*"Паважаныя сябры,* — гэта ўжо радкі з прывітальнага ліста, які даслалі на адрас галадоўшчыкаў дэпутаты Сейма Літоўскай Рэспублікі **Вацлаў СТАНКЕВІЧ, Эгідзіус ВАРЭЙКІС, Гедымінас ЯКАВОНІС** і іншыя. — *Мы з захапленнем назіраем за Вашай самаахвярнай барацьбой. Лічым, што Вы выканалі свой абавязак, звярнуўшы ўвагу сусветнай супольнасці на палітычную сітуацыю ў Беларусі. Ваша шматдзённае галаданне пагражае Вашаму здароўю, таму мы заклікаем спыніць галадоўку, таму што Вашы веды і сілы патрэбны будучай дэмакратычнай Беларусі".*

А вось які каментарый даў карэспандэнту Радыё Свабода ў Варшаве былы прэзідэнт Польшчы, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру **Лех ВАЛЕНСА:** *"Трэба выкарыстоўваць усе спосабы, якія дае дэмакратыя, каб пераканаць грамадзян у неабходнасці абараняць свае выбарчыя правы і правы на аб'яднанні. Калі грамадзяне зразумеюць, што большасць мае права вырашаць свой лёс, тады перамога гарантаваная... Што да галадовак, дык такія акцыі варта ладзіць дзеля таго, каб абудзіць свядомасць народа. Каб чалавек пабачыў, што іншыя змагаюцца — і мне таксама трэба вызначыцца, не стаяць у баку..."*

Цяжка сказаць, колькі яшчэ будуць галадаць дэпутаты і партыйныя актывісты. Усё залежыць, канешне, ад іх волі і стану здароўя. Дарэчы, у ноч з чацвярга на пятніцу, паведамляе Уладзімір Чырвоненка, дрэнна было дзвюм жанчынам: у Марыны Багдановіч быў павышаны пульс, пачуццё трывогі, болі ў вобласці сэрца, у Віцебску Эла Канавалава ўпала ў непрытомнасць. Тым не менш, па некаторых звестках, да панядзелка, 21 чэрвеня, ніякіх грунтоўных змен арганізатары акцыі не плануюць. Але, на нашу думку, мэта акцыі ўжо дасягнута. Дасягнута ў незалежнасці ад таго, адрэагуе на яе неяк "усенароднаабраны" ці, як заўсёды, адмаўчыцца, робячы выгляд, што ўсё гэта адбываецца не ў нашай краіне. Пра рэакцыю самой "палаткі" можна не гаварыць, паколькі яна з'яўляецца больш дэкаратыўным парламентам, чым сапраўдным.

І таму, па нашым глыбокім перакананні, генерал Фралоў і яго аднадумцы павінны НЕАДКЛАДНА (!!!) спыняць галадоўку. Памятайце, шаноўны Валерый Дзмітрыевіч, Вы ў адказнасці не толькі за сваё жыццё, але і за жыццё тых, хто пайшоў за Вамі. Памятайце і словы Часовага Паверанага ў справах Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Ёзэфа Мачышака, вынесеныя ў загаловак: *"Ніводная дыктатура не вартая чалавечага жыцця!"*

**Віталь ГАРБУЗАЎ,**
**Алесь СІЛІЧ.**

# Сам-насам зь вечнасьцю...

(Заканчэньне. Пачатак на 1-й стар.)

І падчас нашае перадапошняе сустрэчы на зямлі Васіль распавядаў пра свайго ката з маленства. Як вясна, той зьнікаў да восені. Перад халадамі вяртаўся з зайцом на плячох. Зацягваў сваю здабычу на гарышча. Аднойчы такога здаровага прывалок, хоць і сам быў ня зломак, што, калі лез на гарышча па вуглу, заяц зваліўся далоў. Сумна дадаў расповяд пра курачку-нясушку: "...Курачка несла яечкі, яечкі зьбіралі. Бацька абуваў новыя лапці й нёс яечкі ў Вушачу. Нейкую пяцёрку вyручаў. Выручка йшла на падатак. Аднойчы каршун зь лесу — на курку. І пазбавіліся даходу..."

На развітаньне Васіль сказаў: "...Вы мне нагадалі пра маё здаровае мінулае..." Мы — гэта Генадзь Бураўкін, Сяргей Шапран, я.

19 чэрвеня 2003 прыйшлі мы павіншаваць імяніньніка (ня думалі, што апошні раз, усё яшчэ сподзеў цепліўся): Генадзь Бураўкін, Сяргей Законьнікаў, Анатоль Кудравец, Валянцін Болтач, Анатоль Вярцінскі, Сяргей Шапран і я. Васіль трымаўся спакойна. Шапран прынёс фотаздымкі й на дыктафоне віншаваньні ад расейскіх пісьменьнікаў, сяброў Быкава. Васіль шапранаўскія фотаздымкі пахваліў: "Ты проста Крамской". Праслухаў на дыктафоне прачулыя словы Бакланава. Віншавальную тэлеграму даслаў Аман Тулееў. Як дэмакрат, пажадаў яму стойкасьці. (Нашае чынавенства й галаўное, й ніжэйпаясьнічнае гэтага дня ў календары не знайшло.) Я ад Дамінічкі перадаў малюнак. А калі мы адыходзілі, Васіль па традыцыі перадаў прывітаньне Мірону. (Дарэчы, Мірон неўзабаве сканаў — пайшоў пяяць курню не на зямлі.)

Васіль быў натуральна сьціплым, самавыхаваным крэўным крывіцкім інтэлігентам. Не на паказ падкрэсьліваў: "Не ў характары беларусаў пахвальба".

Глыбока лірычны Васіль любіў гумар, дасьціпнае слова. Гумар ягоны быў аскетычным. На поўным як бы сур'ёзе шкадаваў аднаго паэта, якому, як дэпутату пасьляперабудовачнага Вярхсавета, належала на паседжаньні езьдзіць на персанальнай машыне, а паэт жыў як ня вокны з будынінай Вярхсавета (былога ЦК).

Запомнілася, як старшыня Саюзу пісьменьнікаў хацеў абрадаваць Быкава, што маецца магчымасьць (паступіла разнарадка) надаць яму годнасьць ганаровага акадэміка. Васіль спакойна паглядзеў на старшыню й толькі запытаўся: "Ты гэта сур'ёзна?" І пытаньне адразу ж адпала.

Недзе ў канцы 2002 году тэлефаную Васілю ў змушаны вырай (адразу грэе душу: "...Чую твой беларускі, вушацкі голас..."), кажу, што ў Віцебскім тэатры паставілі "Стрэл у тумане" (па "У тумане") і хочуць везьці ў Нямеччыну. Васіль: "...Куды? Яны думаюць, што немцы любяць глядзець пра вайну, як іх б'юць?.."

Неяк, тэлефануючы Васілю, пачаў было нешта няскладна лапатаць і самаацаніў сваю балбатню фразай, што ўсё гэта, як гавораць бяздарныя рэжысёры, "в порядке бреда". Васіль: "...Там у нас ужо й бязмозгліцы не засталося, хіба што ў (і называе прозьвішча аднаго дападліва-назойлівага рэжысёра)..." Пераводжу тэму, пытаюся, якія добрыя навіны. Васіль працягвае: "...Калі якая навіна пагрукае ў дзьверы, дык абавязкова дрэнная. Добрыя навіны эміґравалі некуды..."

На абмеркаваньні фільму "Акафіст Уладзімеру" (пра Караткевіча па маім сцэнару): "...У савецкай ідэялёгіі не было паняцьця трагедыі. Трагедыя магла быць толькі старажытна-грэчаская. А ў камуністаў яна толькі аптымістычная. Уся натура Караткевіча замешана на трагізме. Гэта адвакаты нацыі дасюль адмаўляюць... Калі творца перажывае трагедыю, а вонкава выгляду не падае, ён упадае ў алкагалізм ці ў наркотыкі... ...Пэнсыянер пэнсыянера бачыць здалёк. Людзі пытаюцца, як здароўе, а пэнсыянеры, як палітыка. А яна ў нас кепская. Людзі залежаць ад метэаўмоваў, а пэнсыянеры ад палітыкі. Іх аж хістае ад палітыкі, бо галодныя... ...А ўвогуле ад "Акафісту Уладзімеру" цягне касьмічным холадам. Звычайны холад можа быць і ў пустой бульбяной яме..."

Гэта Васіль казаў у апошнім месяцы 1995 году. А праз год ахарактызаваў аднаго дзяржаўнага дзеяча: "...Аблегчаны аптымізм робіць яго фальшывай фігурай. Я ж некалі, калі ён быў пры ўладзе, папярэджваў наконт камуністаў. Дык ён быў упэўнены, што яны не ўскрэснуць. І вынік..."

Апостал нацыі мысьліў касьмічна-аземлена. Нябёсы паслалі яго на зямлю, Звышні сьцярог яго. Бо гэтулькі было ўмоваў загінуць, калі б Васіль Быкаў быў проста чалавекам, няхай сабе й зь вялікай літары.

Хоць бы такі прыклад узяць. Асабіст, размахваючы пісталетам, гразіўся расстраляць Быкава. Праз якія дзьве гадзіны асабісту адарвала абедзьве рукі. І ўжо ў мірны час, калі гарадзенскія камсамольцы білі вокны Быкаву, узгадаўся габрэйскі досціп: каб Бог жыў на зямлі, яму б выбілі ўсе шыбіны ў вокнах.

Апостал нацыі вёў гутарку зь нябёсамі. Быў уважлівы да сымбаляў. Лічбу 7 лічыў пакутніцкай, хаця яна, казаў ён, — сам чалавек. Падкрэсьліваў: "...Хрысціянская ідэя якраз трымаецца на паразе, а не на трыумфе. Хрыста ўкрыжавалі, й гэта ягоная перамога... Ідэя адраджэньня яшчэ ажыве. І тое, што зрабіў БНФ, прыдасца нашчадкам..."



Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін.

Фота Яўгена КОКТЫША.

Неяк размаўлялі з Васілём пра надыход зімы, пра сход году. І, між іншым, ён роздумна падкрэсьліў: "...Сталін нарадзіўся ў самую доўгую ноч. Д'ябальская сымболіка..."

Васіль насіў у сабе ўвесь сьвет, і там сваё асобнае мейсца займала Вушаччына. Ён жыў роднымі мясьцінамі, а родныя мясьціны памяталі й чакалі яго. Было ўзаемапаразуменьне. Стаім на беразе возера Селішчанка. Васіль кажа так, каб і возера чула: "...Усё зьмяняецца, а абрысы возера — не. Магу паказаць, дзе рос чарот".

Потым, калі йдзем каля лесу, Васіль зьвяртаецца да зялёнай калыскі мрояў ягоных захмарных: "...Фінскі лес бліжэй да вушацкага..."

У 1995 годзе віншую свайго высокага сябра, а ён узгадвае: "...Кублічы былі праваслаўныя, але з вуніятаў. Селішча ўжо каталіцкае. Мармур і стодзівы на магільніку. Пасьля вайны мармур пайшоў на падмуроўку..."

Прачытаў Васілю песеньку Дамінічкі, якую яна напісала:

*Гаспажыня мяцеліца,*
*Ты лётаеш між небам і зямлёю —*
*І сьпяваеш ву-ву-ву...*

Распагоджана ўсьміхаецца: "...У Дамінічкі ўніяцкая мова..."

Яно не выпадкова, што Васіль Быкаў хінуўся да вуніяцтва. Бо дзеды й прадзеды нашыя былі вуніятамі. І ў апошні шлях праводзіў глыбокага верніка ўніяцкі сьвятар.

Дужа клапаціўся Васіль пра Дамінічку. Са сваіх выраяў слаў ёй гасьцінцы, падарункі. Летам 2000 года прыехаў у Вушачу (за рулём быў сын Сяргей). Дамінічка першая выбегла сустрэць, а Васіль мне радасна: "Вось і твой анёлак!"

Людзі, не замбіраваныя камуністычнай і неакамуністычнай прапагандай, любілі, шнавалі, ганарыліся Васілём Быкавым. Дырэктар Вушацкага музэю Мікола Кірпіч распавёў: у 2000 годзе музэй наведала афрыканская дэлегацыя, казаў ім пра партызанскія подзьвігі, пра землякоў, пакутна-стрымана маўчалі, і толькі, калі пачулі "Васіль Быкаў", ажылі. Ведаюць.

Сам Васіль да вядомасьці сваёй ставіўся зь непрыхаваным скепсісам, пакепліва. У травені 2003 году тэлефаную ў Прагу й між іншым кажу, што маецца ідэя выдаць фотаальбом Васіля Быкава й назву прапаную "Васілёк у жыце Беларушчыны". Адказ чую усьмешлівы: "...Калі б я малады памёр, дык было б рамантычна. А так, мабыць, лепей "Куст асоту ў жыце Беларушчыны"?.."

У перадапошні дзень травеня 2003 году Васіль Быкаў прыехаў у ПЭН-цэнтр. Падаў у адстаўку. Клопату болей, чымся мажліва вытрываць. Ідзем да таксі. Сяргей Шапран усё робіць здымкі. Каля самай машыны Васіль папярэджвае: "...Толькі не кажы пры таксісьце, каго ён вязе, а то зь мяне ў мінулы раз падвойную плату ўзялі. Казаў жа Стэйнбек: "Самае страшэннае — гэта страціць невядомасьць"..."

У 2001 годзе Васіль тэлефанаваў мне ў Вушачу. Пытаўся пра мае клопаты. Я сказаў яму, што, калі заказвалі надмагільле брату Васіля Быкава Міколе, зрабілі адразу. А трунар пазнаў мяне. Васіль: "...Хоць трунары нас шануюць, і тое добра... За мяжой цырульнік, кухар вышэй за паэта..."

Калі мы былі на Вушаччыне, Васіль пошаптам: "...Наведваю магілы сяброў... Гавары... Болей слухаць люблю... Лепей наведваць магілы сяброў, чым сваю..."

Нядаўна знайшоў у сваім нататніку штрыхавы накід, які зрабіў Васіль 16 чэрвеня 2001 г. Гэта бычкоўскія могільнікі. (Якраз у чэрвені.)

Няўседны Анатоль Белы ўсё хацеў зрабіць помнік Васілю Быкаву. На пачатку ўсё таго ж конавага чэрвеня Васіль сумна казаў: "...Хай Белы пачакае з помнікам. Яшчэ я жывы. Ня трэба помнік пры жыцьці... Калі памру... Няма нідзе мейсца на зямлі..."

Самотна было Васілю й на сходзе 1995 году: "...Няма радасьці ні ў прыродзе, ні ў жыцьці. Адна спадзяванка, што радасьць атрымаем ад Бога. Самае важнае не разьлічваць у жыцьці на нешта добрае. Як на вайне, разьлічвай на пагібель. Ня радуйся, што за бугром не схаваўся. Цябе выкураць..."

Або: "...Мы ўсе ўжо самотныя. Мы чужыя маладым. Яны зьбіваюцца ў зграі. Так было, так будзе. Раней, пры імпэрыі, іерархія ўзроставая трывала. Старыя мелі ня толькі званьні, але й ключавыя пазыцыі. Гэта было штучнае прымірэньне. Маладым даводзілася рабіць выгляд... Трэба абапірацца на моладзь..."

У сярэдзіне дзевяностых гадоў (пішу гэта, а ў самога аж рэшткі былога стогу валасоў дыбам) распачаў як бы свой жанр "дурноты". Адну й пачытаў Васілю. І пачуў рэцэнзыю: "...Цяпер не пра каханьне ды красу прыроды, а дурноты пісаць самы час..."

А наогул Васіль быў паэтам, датклівым лірыкам у душы. Напярэдадні ягонага апошняга дня народзінаў прачытаў я Васілю верш Зелімхана Яндарбі ў сваім перакладзе.

*— Камень ляжыць!*
*— Ат, ніжэй не ўпадзе.*
*— Чалавек ляжыць!*
*— Ат. Ніхто не ўкрадзе.*
*— Сэрца ляжыць!!!*
*— Ат. Ніхто не спачуе бядзе.*
*— Рубель ляжыць.*
*— Дзе???!!!*

Васіль пажадаў посьпеху аўтару.

А калі ў невялікім застольлі запытаўся я, ці пісаў Васіль вершы (бо адзін чалавек сьцьвярджаў, што вучыўся на вершах Быкава), толькі й сказаў, падняўшы кілішак: "За чытача!"

Той жа чалавек у 1995 годзе, наколькі мог здавацца шчырым, дзівіўся, чаму ў сьпісах кандыдатаў у дэпутаты Вярхсавету ня бачыць Быкава, бо гэта буйны пісьменьнік, але як грамадзянін дапусьціў шмат памылак. Калі я патэлефанаваў Васілю, ён адказаў, што цяпер можа спакойна паміраць, раз яго заўважыў не абы хто...

У 2000 годзе ў Вушачы са смуткам казаў Васіль пра беларускі хвасьцізм: "...Мы заўсёды ў хвасьце людзей. Эўропу самі эўрапейцы падзялілі па нацыянальным прызнаку, а калі беларусы захацелі — ім нельга..."

Дасюль памятаю кемлівы гумар Васіля пра так званых спалоханых рэвалюцыянераў: "...Дэмакраты харошыя людзі. Але самае лепшае выкарыстаньне іх у застольлі..."

Пішу гэтыя раскідзістыя згадкі ў лякарні. А ўсё не верыцца, што ня ўбачу, ня ўчую Васіля. Бо бачу яго, бо чую яго, бо чакаю яго.

Лёс мой асьвячала тройца — Бог, мама, Васіль. Цяпер я застаўся з Богам.

Апостал нацыі Васіль у сваім зямным жыцьці слухаў Вечнасьць. Цяпер ён застаўся зь Вечнасьцю сам-насам...

*Мінск.*

*(Артыкул Рыгора Барадуліна друкуецца з захаваннем стылю аўтара.)*

## Ніл ГІЛЕВІЧ
**(Новыя вершы з нізкі «Гекзаметры XXI стагоддзя»)**

### Як іх назваць — я не знаю...

*Людзі, што ў час пераломны бязбожнай хлуснёй і падманам*
*Выйшлі ў "асэсары" і пазаймалі дзяржаўныя вышкі,*
*Сцямілі хутка: як смачна звысоку пляваць на галовы!*
*А чым вышэй узбярэшся — тым большая можнасць аплёўваць,*
*Значыць — і болей эфекту, і больш насалоды-уцехі.*
*Ну і пайшло! Ужо колькі гадоў, як народ абылганы*
*Моўчкі пляўкі выцірае штодзённа. А хто паспрабуе*
*Абараніць і сябе, і дзяцей, і Радзіму ад ганьбы,*

*Ад прыніжэння, ад здзеку, ад гвалту над духам свабоды, —*
*Будзе разгромлены, сядзе за краты ці знікне наогул...*
*Вольнае слова праўдзівае душаць крывымі судамі —*
*Не заікніся спаслацца на права, на волю Закона!*
*Дух беларушчыны, водар жывіцы яе векавечнай*
*Б'юць-забіваюць атрутаю, ядам усцяж вытраўляюць.*
*Мову народа звялі на экране да надпісаў-цітраў —*
*Як для замежнікаў! Гэта — у нашай уласнай дзяржаве!*
*Школьнікаў нават на вуліцу выгналі з роднае школы —*
*Каб не трымаліся праўдай і верай зямлі беларускай.*

*Хто ж яны, хто яны, гэтыя людзі, што чыняць такое,*
*Што паступаюцца гэтак сумленнем, забыўшы пра Бога?*
*Як іх назваць, каб дакладна было і выразна — не знаю.*
*Нават у мове, а гэткай багатай, а гэткай вялікай,*
*Як беларуская наша, знайсці ім найменне няпроста.*
*Трэба ж, каб слова было зразумелае. Бо калі ў гневе*
*Скажаш, ну хоць бы, для прыкладу, "выхляпкі!" — могуць падумаць*
*Чорт яго ведае што! І пацягнуць у суд за абразу.*
*Покуль вучоны дарадчык як след растлумачыць, што гэта —*
*Слова бяскрыўднае, гэта... ну гэтае самае... — можаш*
*І загрымець у які ізалятар. Таму і кажу вам:*
*Як іх назваць — я не знаю. Знайдзіце найменне ім самі.*

### Дыялог перад тэлеэкранам

*— Дзедка Язэпка, ну што ты чаго ты ўжо так захапіўся*
*Гэтай палітыкай на цілявізары? Ледзь не штовечар*
*Ты ўсё глядзіш і глядзіш, як яны засядаюць і пішуць,*
*Пішуць і пішуць усё ў свае сшыткі, як вучні на ўроку.*
*Мне дык здаецца, Язэпка, што гэта зусім не цікава.*
*Гэтак яны і заўчора пісалі, і ўчора. Ды што я! —*
*Колькі гадоў ужо гэтак яны засядаюць і пішуць,*
*Спрэс паўгінаўшыся і паўтыкаўшы насы ў балакноты!*
*Можа, яны гэта, дзедка Язэпка, праходзяць вучэбу,*
*Як навучыцца спрытней балантэсіць і стаць балантэсам?*

*— Бабка Агапка, чаму мне цікава — сядай, растлумачу.*
*Надта ж забрала адна мяне думка-загадка, якую*
*Сам я сабе загадаў і таму вось сачу і чакаю:*
*Хто ж і калі з іх, ну хоць бы адзін, не стрывае, нарэшце,*
*І закрычыць, і падхопіцца з крэсла, і тым балакнотам*
*Пусціць у люстра і кінецца ходу, і бразьне дзвярыма!*
*Я — каб во гэтак сядзець давялося — даўно звар'яцеў бы!*
*Дзе ж бы сцярпеў я і вытрываў! Дзе ж бы хапіла мне нерваў!*
*Часам, калі з іх каго кінакамера выхапіць буйна*
*І затрымаецца трохі на змучаным твары няшчасным —*
*Я заміраю: ну зараз, ну зараз вось гэты, вось гэты*
*Шпокне і выбухне! Зараз! І ў дзікім прыпадку шаленства*
*Схопіць за горла калегу і невінаватага ўдушыць!..*
*Я — каб во гэтак сядзець давялося — відаць, удушыў бы!*
*Проста ад злосці, ад гневу, ад роспачы. Дзе ж бы стрываў я*
*Месяц у месяц, і тыдзень у тыдзень вось гэтак гадамі*
*Слухаць і слухаць, хаваючы вочы, і крэмзаць і крэмзаць!..*

*— Дзедка Язэпка! А божа! А людцы! А што ты гаворыш!*
*А пераксціся хутчэй ты і сплюнь! Каб адразу забыцца!*
*Дай я сама перакшчу цябе тройчы і сплюну! Ой, дзедка!*
*Шчасце якое, што ты не падняўся вышэй ад пасады*
*Старшага конюха ў нашым калгасе! А каб жа падняўся?*
*Ды і пралез у міністры?! А мог бы з тваёй галавою!..*
*Гэта ж і ты засядаў бы вось гэтак і гэтак жа сама*
*Слухаў і слухаў усе балантэсы, і крэмзаў і крэмзаў!..*

*— Бабка Агапка, ну ты мяне дзівіш! Сказаў жа я толькі,*
*Што каб во гэтак мяне прынародна лічылі за дурня,*
*За недарэку-няўмеку, які анічога не петрыць,*
*Ды каб во гэтак яшчэ мне пры людзях хамілі паскудна, —*
*Дзе ж бы я вытрываў! Я ж бы ад гневу там так узарваўся —*
*Што разляцелася б к чортавай матары ўсё пасяджэнне!*
*Хай бы хапалі і рукі вязалі жалезкамі! Хай бы!*
*А зразумелі б, што я — чалавек, а не мошка-казяўка!*
*Цьфу ты, халера на гэных пісакаў! Аж сэрца схапіла!*
*Трэба было табе лезці пытацца! Нясі валяр'янку!..*

*2004, студзень—чэрвень.*

**ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — НЕ ВЕРЦЕ**

## Будучы тыдзень: зоркі прадказваюць

**АВЕН.** Велічы трэба дамагацца — так, памятаецца, гаварыў Ван Гог. А чым вы хужэй? Правільна, нічым. Так няхай пра гэта ведаюць усе навокал. І няхай зайздросцяць. Але будзьце велікадушнымі — падзяліцеся з навакольнымі сваім вопытам і ідэямі. Спрыяльныя дні — 21,22, неспрыяльны — 26.

**ЦЯЛЕЦ.** Вакол вас можа з'явіцца нядобразычлівец, які будзе і палкі ў колы ставіць, і падкопы строіць. Вылічыць яго вам дапаможа інтуіцыя. А інфармацыі, што паступае, не давярайце — не выключана, што яна зыходзіць ад вашага злосніка. Спрыяльныя дні — 23,24, неспрыяльны — 21.

**БЛІЗНЯТЫ.** Зараз вы можаце смела прымаць адказныя рашэнні не толькі за сябе, але і за навакольных. Яны будуць вам толькі ўдзячныя і калі-небудзь адплацяць тым жа. Але, дапамагаючы блізкім, знайдзіце час падумаць і пра свае праблемы. Спрыяльныя дні — 21,26, неспрыяльны — 24.

**РАК.** Не дзейнічайце наўздагад. Заставайцеся дыпламатам у любой сітуацыі — тады вашы намаганні годна ацэняць і родныя, і начальства. Не будзьце залішне жорсткімі і патрабавальнымі ў сямейным жыцці, дамагчыся ўсяго вам дапаможа пяшчота. Спрыяльныя дні — 23,24,27, неспрыяльныя — 25,26.

**ЛЕЎ.** Зоркі раяць вам пайсці ў цень: для ініцыятывы і дэманстрацыі сваіх ідэй гэты тыдзень не самы спрыяльны. Інакш вы рызыкуеце трапіць начальству пад гарачую руку. З роднымі не выключаны канфлікт з-за грошай — ці з-за іх дэфіцыту. Спрыяльныя дні — 21,22, неспрыяльных дзён няма.

**ДЗЕВА.** Зараз вам лёгка пераканаць усіх у сваёй праваце. Аднак хтосьці будзе вас увесь час раздражняць, паспрабуе на вас ціснуць. Справа можа скончыцца сур'ёзным канфліктам. Таму лепш часова змяніць абстаноўку, куды-небудзь з'ездзіць. Спрыяльныя дні — 23,24,25, неспрыяльных дзён няма.

**ШАЛІ.** Не стройце грандыёзных планаў — іх здзяйсненню будуць перашкаджаць і сябры, і родныя, і начальства. Можа сапсавацца і здароўе, таму нават частку паўсядзённых спраў давядзецца адкласці. Але хутка ўсё наладзіцца, а пакуль займіцеся сваім здароўем. Спрыяльныя дні — 21,25,26, неспрыяльных дзён няма.

**СКАРПІЁН.** У вас могуць узнікнуць праблемы на рабоце: або хтосьці падвядзе вас, або кагосьці падвядзеце вы. Выстройваць адносіны з калегамі ў такой сітуацыі будзе няпроста. І ўсё ж не дазвольце, каб гэта стала перашкодай вашаму асабістаму жыццю. Спрыяльныя дні — 23,27, неспрыяльны — 21.

**СТРАЛЕЦ.** Усё тайнае аднойчы робіцца яўным. Вось і вашы старыя грахі ў гэтыя дні могуць усплыць. Але навакольныя паставяцца да іх спагадліва. Толькі не качайце правы ў размовах з начальствам і нікому не рабіце заўваг. Спрыяльны дзень — 22, неспрыяльны — 24.

**КАЗЯРОГ.** Энергія будзе біць у вас ключом, аднак не варта ціснуць на навакольных, навязваць ім свой пункт гледжання, вучыць розуму. Не злоўжывайце сваёй сілай, карысці гэта не прынясе. І ўстрымайцеся ад рызыкі, асабліва фінансавай. Спрыяльны дзень — 23, неспрыяльны — 26.

**ВАДАЛЕЙ.** Дрыгва хатніх спраў можа засмактаць вас з галавой. Але гэта і добра — інакш у вас з'явіцца спакуса паінтрыгаваць у рабочым калектыве, што можа прывесці да сур'ёзнага канфлікту. А напрыканцы тыдня займіцеся здароўем. Спрыяльныя дні — 25,26, неспрыяльны — 21.

**РЫБЫ.** Эканоміка павінна быць эканомнай — гэты стары афарызм вам трэба помніць увесь тыдзень. І не спрабуйце весці сваю гульню, зараз вам лепш падпарадкавацца знешнім абставінам. Нават у асабістым жыцці аддайце ініцыятыву ў рукі партнёра. Спрыяльныя дні — 23,27, неспрыяльны — 24.

## Понедельник, 21 июня

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12,00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.35** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30** "Деловая жизнь".
**09.05** "В центре внимания".
**10.10** "Беларусь была его судьбой". Док.фильм.
**10.55** "100 шагов к Олимпу".
**11.05** "Путешествие дилетанта".
**11.30** "36,6".
**12.10** "Открытый архив".
**12.35, 19.20** **"Государственная граница".** Сериал.
**14.05** "Специальный репортаж".
**14.20** "Ваше лото". Телеклуб.
**15.10** "5 чудес".
**15.20** "Созвездие надежд".
**16.05** "Клип-обойма".
**16.45** "Раймонд Паулс: "Я — человек другого мира". Видеофильм АТН.
**17.05** "Земельный вопрос".
**17.25** **"Богатые и знаменитые".** Сериал.
**18.20** Футбол. Дневник чемпионата Европы.
**19.05** "Зона Икс".
**20.45** "Политическая педофилия". Видеофильм АТН.
**21.00** "Панорама".
**21.40** Футбол. Чемпионат Европы. Швейцария—Франция. Прямая трансляция.
**23.40** Футбол. Чемпионат Европы. Хорватия—Англия. Прямая трансляция.

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.00** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05** "Контуры".
**09.55** **"Джуниор".** Комедия.
**15.55** **"Женщины в любви".** Сериал.
**16.50** "Большая стирка".
**18.10** "Жди меня".
**19.05** **"Клон".** Сериал.
**20.00** "Время".
**21.05** "Выбор". Ток-шоу.
**21.50** **"Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**23.15** **"Великий полководец Георгий Жуков".** Историческая эпопея.

**РОССИЯ**

**07.45** **"Черный пес".** Боевик.
**09.40, 20.55** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести.
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50, 17.05** **"Команда".** Сериал.
**11.50** **"Ундина".** Сериал.
**16.10** **"След оборотня".** Сериал.
**18.00** **"Комиссар Рекс".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**19.55** **"Бедная Настя".** Сериал.
**21.15** "Вести +".
**21.35** "Смешная леди". Музыкальный фильм.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Провинциальные истории".
**08.35** "Троица". Фильм-концерт.
**09.35** Наше наследие". "Мирский замок".
**09.50** "Телебарометр".
**10.05, 17.55** "Между нами, женщинами". Тележурнал.
**10.25, 21.15** **"Грешная Анхелика".** Сериал.
**11.15, 13.10** "Обычный необычный день".
**11.45** **"Олеся".** Мелодрама.
**13.35** "Впервые на арене", "Веселый огород". Мультфильмы.
**14.10** "Остров собак Динго". Док.фильм.
**14.40** **"Шутки в сторону".** Сериал.
**15.05** "Не зевай!".
**15.15** "Бум". Тележурнал для школьников.
**15.40** **"Летние впечатления о планете "Z".** Худ.фильм.
**18.15** **"Трость моего отца".** Мелодрама.
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".
**22.05** "Время кино". Специальный выпуск.
**23.00** Баскетбол. НБА. Финал. Трансляция из США.

**НТВ**

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**09.25** "Женский взгляд".
**09.55** "Без рецепта".
**10.30** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино". Ток-шоу.
**16.30** "Дикий мир: борьба за выживание".
**17.35** "Протокол".
**18.40** **"Мангуст". "Желтая карточка".** Сериал.
**19.45** "Желанная". Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.35** "Красная стрела".
**21.45** **"Штрафные души".** Фильм Евгения Кириченко.
**23.05** "Клан Сопрано". Сериал.

**СТВ+RenTV**

**06.40** "Утро столицы".
**07.30** "168 часов".
**08.20, 23.10** "Технология".
**08.35** "Минск и минчане".
**08.45** "Личный интерес".
**09.25** "Трансформеры". Мультфильм.
**09.55** **"Мои пять жен".** Комедия.
**11.40** "Анфас".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Под углом 23 с половиной градуса". Док.фильм.
**13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**13.50, 18.30** **"Ангел на дорогах".** Сериал.
**14.50** **"Мятежный дух".** Сериал.
**15.35** "Маска". Мультсериал.
**16.00** "Ежик в тумане". Мультфильм.
**16.10** "Дом, который построю я".
**16.50** "Игровой рефлекс".
**17.00** **"Крутой Уокер".** Сериал.
**18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**18.15** "Арт-экспресс".
**20.00** "СТВ-спорт".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Кадровый вопрос".
**20.55** **"Охотник".** Боевик.
**23.20** "Столичный футбол".
**23.50** "Новости СНГ".
**00.05** **"Покорение".** Мелодрама.
**01.55** "Большая музыка".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00, 17.00** **"Моссад".** Сериал.
**07.50, 17.50** "Телемагазин".
**08.00** "Классика Уолта Диснея".
**09.20** "К-игра".
**09.30, 21.00** "Союз". Тележурнал.
**09.45, 19.30** **"Любовники пустыни".** Сериал.
**10.30, 19.40** "К-видео" — "Топ-8".
**10.40** **"Убийцы".** Приключенческий фильм.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00** **"Профессионал".** Боевик.
**20.45** "Вечарніца".
**21.10** **"Присяжная".** Драма.

**ТВ ЦЕНТР**

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35** **"Шик".** Драма.
**09.25** "Репортер".
**09.40, 12.10** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.05** "Постскриптум".
**12.00** "Доходное место".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15** **"Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.20** "Войди в свой дом".
**14.30** "Православная энциклопедия".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Опасная зона".
**15.45** "Жалобная книга". Ток-шоу.
**16.25** "Прорыв".
**17.15** "Алфавит". Телеигра.
**18.00** **"Страсти по Саломее".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55** **"Танк "Клим Ворошилов-2".** Драма.
**21.40** "Особая папка".
**22.20** "Времечко".
**22.50** "Петровка, 38".
**23.10** "25-й час. События. Время московское".
**23.30** "Очевидное-невероятное".
**00.05** "Магия".

**EUROSPORT**

**08.00, 09.30, 10.00, 13.30, 17.30** Футбол. Команды ЕВРО-2004.
**08.30, 00.15, 01.30** Футбол. ЕВРО-2004.
**10.30** Ралли-рейд. Кубок мира в Марокко.
**11.00** Академическая гребля. Кубок мира в Швейцарии.
**12.15** Эстафета олимпийского огня.
**12.30, 16.30** Футбол. Легенды чемпионатов Европы.
**14.00** Легкая атлетика. Кубок Европы в Польше.
**18.00** Снукер. Международный турнир в Великобритании.
**20.15** Мотоспорт по выходным.
**20.30** Мультиспорт. "Всякая всячина".
**21.00** Новости футбола.
**21.15** Сумо. Гранд-турнир (Башо).
**22.15** Боевые единоборства. "Бойцовский клуб".
**01.15** Новости "Евроспорта".

## Вторник, 22 июня

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 19.00, 23.35** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!"
**07.30, 08.30** "Деловая жизнь".
**09.05** Футбол. Чемпионат Европы. Хорватия—Англия.
**10.55** "100 шагов к Олимпу".
**11.05** "Брестская крепость". Док.фильм.
**12.10** "Зона Икс".
**12.25, 19.25** **"Государственная граница".** Сериал.
**13.40** "Эхо прошедшей войны". Видеофильм АТН.
**14.05** **"Парень из нашего города".** Худ.фильм.
**15.45** "Памятник". Док.фильм.
**16.05** "5х5".
**16.50** "Памяти Василя Быкова". Видеофильм АТН.
**17.05** **"Круглянский мост".** Драма.
**18.25** Футбол. Дневник чемпионата Европы.
**19.05** "Общественная безопасность".
**20.45** "Специальный репортаж".
**21.00** "Панорама".
**21.00** Футбол. Чемпионат Европы. Италия—Болгария. Прямая трансляция.
**23.40** Футбол. Чемпионат Европы. Дания—Швеция. Прямая трансляция.

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.20** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 19.05** **"Клон".** Сериал.
**09.55** "Дисней-клуб". "Мышиный дом".
**14.00** **"Я — русский солдат".** Драма.
**15.50** **"Женщины в любви".** Сериал.
**16.50** "Большая стирка".
**18.10** "Дом". Реалити-шоу.
**20.00** "Время".
**21.05** **"Черный ворон".** Сериал.
**22.15** **"Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**23.35** "Не только о футболе".
**00.00** "Потерпевшие победу". Док.фильм.
**00.45** Футбол. Чемпионат Европы. "Португальские тайны".

**РОССИЯ**

**07.45, 19.55** **"Бедная Настя".** Сериал.
**08.40** "Короткое замыкание".
**09.40, 20.55** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50, 17.05** **"Команда".** Сериал.
**11.50** **"Ундина".** Сериал.
**16.10** **"След оборотня".** Сериал.
**18.00** **"Комиссар Рекс".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**21.15** "Вести +".
**21.35** **"Экипаж машины боевой".** Драма.
**22.50** "Крылья над Берлином. Забытая операция". Док.фильм.
**23.45** **"Сахар".** Комедия.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Площадь искусств".
**08.35** "Спутники "Сатурна". Док.фильм.
**09.35** "Свет далекой звезды".
**10.05, 18.25** "Между нами, женщинами". Тележурнал.
**10.25, 21.15** **"Грешная Анхелика".** Сериал.
**11.10, 13.10** "Обычный необычный день".
**11.45** **"Братушка".** Киноповесть.
**13.35** "Паучок, с которым никто не дружил", "Старая игрушка". Мультфильмы.
**14.10, 15.15** "Не зевай!"
**14.50** **"Шутки в сторону".** Сериал.
**15.25** "Бум".
**15.50** "Голоса". Видеофильм о судьбе узников Брестского гетто.
**16.30** "Ностальжи".
**17.05** **"Знак беды".** Военная драма.
**18.45** **"Руины стреляют".** Сериал.
**19.50** "День длиною в жизнь".
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".
**22.05** **"На безымянной высоте".** Драма.

**НТВ**

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**09.25** "Безымянная высота". Фильм Евгения Кириченко.
**10.20** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30** "Дикий мир: борьба за выживание".
**17.35** "Протокол".
**18.40** "Мангуст". Жертвы прогресса". Сериал.
**19.45** **"Желанная".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.35** "Красная стрела".
**21.50** **"Однажды в Калифорнии".** Сериал.
**22.55** **"Клан Сопрано".** Сериал.

**СТВ+RenTV**

**06.25, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.40** "Утро столицы".
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.15, 23.10** "Технология".
**08.25** "Столичный футбол".
**08.55** "Добро пожаловаться".
**09.10** "Трансформеры". Мультфильм.
**09.35** **"Охотник".** Боевик.
**11.05** "Рассекреченный XX век". Док.фильм.
**11.30** "Пока горит свеча".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Под углом 23 с половиной градуса". Док.фильм.
**13.50, 18.30** **"Ангел на дорогах".** Сериал.
**14.50** **"Мятежный дух".** Сериал.
**15.35** "Маска". Мультсериал.
**16.00** "Журавлик". Мультфильм.
**16.10** "Кадровый вопрос".
**16.50** "Турпоход".
**17.00** **"Крутой Уокер".** Сериал.
**18.15** "Телеафиша".
**20.10** "Тема дня".
**20.20** "Добрый вечер, малыш...".
**20.35** "Закон и криминал".
**20.55** **"Удар из космоса".** Худ.фильм.
**23.20** "Игровой рефлекс".
**23.30** **"Секретные материалы".** Сериал.
**00.15** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.50, 17.00** **"Моссад".** Сериал.
**08.00** **"Корона Российской Империи".** Приключенческий фильм.
**09.20, 21.00** "К-видео" — "Топ-8".
**09.30** "Академия жизни".
**09.45, 19.50** **"Полиция Гамбурга".** Сериал.
**10.45, 21.10** **"Жизнь прекрасна".** Комедия.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.50, 20.40** "Телемагазин".
**18.00** **"Белорусский вокзал".** Драма.
**20.45** "Вечарніца".

**ТВ ЦЕНТР**

**05.00, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45** **"Танк "Клим Ворошилов-2".** Драма.
**09.30** "Одна из 10.000".
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.10** "Момент истины".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15** **"Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.20** "Как добиться успеха. Доктор Богданов".
**14.30** "Я — мама".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** **"Ванька-встанька".** Драма.
**17.15** "Очевидное-невероятное".
**18.00** **"Страсти по Саломее".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**19.00** "Лицом к городу".
**20.05** "Синий платочек".
**20.35** "Дикая история".
**21.40** "Отдел "Х".
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45** "Супердиск".
**00.00** **"По закону".** Сериал
**01.00** "Синий троллейбус".

**EUROSPORT**

**08.00, 09.30, 10.00, 13.30, 17.30** Футбол. Команды ЕВРО-2004.
**08.30, 00.15, 01.30** Футбол. ЕВРО-2004.
**10.30** Легкая атлетика. Кубок Европы в Польше.
**12.15** Эстафета олимпийского огня.
**12.30, 16.30** Футбол. Легенды чемпионатов Европы.
**14.00** Мультиспорт. "Всякая всячина".
**14.30** Спидвей. Гран-при Уэльса.
**15.30, 21.15** Бокс. Международные соревнования.
**18.00** Снукер.
**20.00** Автогонки НАСКАР. Этап Кубка Некстела в США.
**21.00** Новости футбола.
**23.45** "Цель — Афины".
**01.15** Новости "Евроспорта".

